Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

# Беларуская Борць

Месячнік
пчалярства
і мядова-лекарскіх зёлак

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі
Вільня, вул. Каралеўская, 3-8.
Рэдакцыя адчынена ў аўторкі і
пятніцы ад 10-14 гадз.

Падпісная плата: на год 5 зл., на ½ году -2 зл. 50 гр., на 3 мес. -1 зл. 50 гр.
Заграніцу -ўдвая даражэй
Цана абвестак паводле ўмовы.

№ 5. Вільня, Сьнежань 1934 году. Год I.

## Ад рэдакцыі.

З усіх бакоў атрымліваем пісьмы са скаргамі на нявыразны друк "Бел. Борці" і просьбы выдаваць яе друкарскім спосабам. Мы і самі нічога іншага не жадаем. Дасюлятні спосаб выдаваньня -гэта пякельная работа з благімі вынікамі, і толькі поўная адсутнасьць грашовых сродкаў прымусіла нас узяцца за гэтакую працу.

Пісалі мы ўжо аб гэтым і цяпер зноў адказваем усім нашым падпішчыкам, чытачам і прыхільнікам: хочаце мець лепшую часопісь -памажэце нам у гэтым, вазьміце справу ў свае рукі!

Аплачвайце акуратна падпіску, здабывайце новых падпішчыкаў!

Няхай кожны стары падпішчык здабудзе трох новых, і мы тады ўжо зможам друкаваць "Бел. Борць" у друкарні.

Гэтым пятым нумарам "Бел. Борці" канчаем 1934 год і абвяшчаем падпіску на новы 1935 год.

Падпіска на год выносіць усяго 5 залатовак, на п ўгоду -2 зл. 50 гр., на квартал -1 зл. 50 гр.

Просім усіх нашых падпішчыкаў і прыхільнікаў надсылаць ужо зараз падпіску на новы год, узяўшы пад увагу тое, што рэдакцыя "Бел. Борці" вызначае прэміі тым, хто ўнясе падпіску да 1-га лютага 1925 году.

Хто ўнясе падпіску адразу за цэлы год -атрымае 2 порцыі насеньня найлепшых медадаяў, а хто ўнясе за поўгоду -атрымае 1 порцыю.

Кожны пчаляр у сваіх уласных інтарэсах павінен стацца падпішчыкам "Бел. Борці" і пасьпяшыць з высылкаю грошаў!

Рэдакцыя і Адміністрацыя.

## Дагляд пчол зімуючых на дварэ.

Калі вульлі добра збудаваныя, шчыльныя, з падвойнымі сьценкамі і маюць бакі паміж застаўной дошкай і сьценкамі запоўненыя мятай саломай, або сухім лісьцём, то пчолы ў іх добра перазімуюць на дварэ бяз ніякага вонкавага ўцяпленьня. Вылетаў пры гэтым ня затыкаць, ня сеткаваць ня трэба, можна толькі іх звузіць у слабых сем'яў. Перад вылетамі ставяцца скосна спэцыяльныя дошкі, або падымаюцца падлётныя, каб абараніць гняздо ад ветру і вылеты ад засыпаньня сьнегам. Уцяпленьне дна вульля зьнізу дае добрыя вынікі, бо тады дно і ніз рамак ня вільгатнеюць. Найпрасьцей уцяпліць можна паклаўшы пад вульлей яловыя лапкі, толькі ня шчыльна тады паветра паміж імі праходзіць, а дно ўтрымліваецца цёплым. Кладуць гэтак сама пад вульлей на калочках убітых у зямлю старое дно ад вульля, або нейкую іншую дошку і абсыпаюць вульлей сьнегам аж да стрэшкі. -Абсыпаньне сьнегам практыкуецца часта, трэба толькі ўважна сьлядзіць, каб вылеты ня былі засыпаны, бо пчолы могуць тады задушыцца. -Дзеля гэтага можна ўжываць тры спосабы: 1. Калі вульлей мае два вылеты, верхні і ніжні, то засыпаем сьнегам да верхняга выляту; 2. Калі вульлей мае толькі адзін вылет, то засыпаем вульлей з трох бакоу, а пярэднюю сьценку астаўпяем адкрытай; 3. Засыпаем вульлей цалком, але ад вылету праводзім вускі калідорчык, выложаны дошкамі, дзеля праходу паветра.

Наагул зімою трэба зьвяртаць пільную ўвагу на доступ паветра да гнязда і дзеля гэтага пасьля кожнай веі ачышчаць старанна вылеты ад сьнегу, каліб ён туды ўбіўся.

Далейшы дагляд палягае на абароне пчол ад мышаў і птушак. Асабліва часта "выстуківаюць" з вульля пчол і зьядаюць іх сінякі, жоўны і дзятлы. У ніякім выпадку ня можна гэтых птушак забіваць; хаця яны зімою робяць у пчальніку шкоду, але для нашых садоў яны вельмі карысны і дзеля гэтага іх трэба толькі адцягнуць ад пчальніка, вешаючы дзеля іх кармушкі з ежай, або кусочкі сланіны дзе небудзь здалёка. Каб абараніць ад іх пчолак прымацоўваюць да дрэва, або да жэрдзіны выпханага пугача, або вешаюць забітую варону.

У працягу ўсей зімы трэба кожны тыдзень "праслухаць" пчол пры помачы гумовай трубкі. Найчасьцей пчаляры слухаюць пчол проста вухам прыкладаючы галаву да вылету, але гэты спосаб нядобры, бо заўсёды раней трэба да пчол пастукацца, каб галасьней аказаліся, бо інакш іх не пачуем. Тымчасам прыгатаваўшы сабе гумовую трубку на 30-35 цм. даўжыні можам у кожную пару пчол пераслухаць не робячы ніякага стуку і не турбуючы іх. Укладаем адзін канец трубкі сабе ў вуха, а другі ў вылет і гэтакім спосабам чуем нават самыя слабыя зыкі.

Практычны пчаляр, паслугоўваючыся заўсёды адной і гэтай самай трубкай можа амаль бяз памылкі пазнаць стан сямьі па зыках, якія выдаюць пчолы. І так, роўны і аднастайны шум, быццам малай крынічкі, сьведчыць аб памысным стане сямьі. Шум няроўны, неспакойны, падобны да шэлясту сухога лісьця гаворыць нам, што пчолы галодныя. Калі пчолам зімна, яны гэтак сама аказваюцца шэлестам, прычым чуваць і ціхае бзыканьне. Калі ў вульлі горача пчолы гудзяць голасна і вылятаюць на двор. -Семья бяз маткі, ад часу да часу выдае ціхі енк агульны і паасобны.

Ведаючы дарогай пераслухіваньня чаго пчолам нехапае стараемся якнайхутчэй ім парадзіць.

Паратуем пчолы ад бяды, а можа і сьмерці, і сябе ад матэрыяльнай стра

З.В.

## Саламяныя вульлі.

Вельмі часта даецца чуць крытыку саламяных вульлёў; кажуць што яны не надаюцца для пчолак перад усім дзеля таго, што ў іх лёгка можа завесьціся вільгаць, ну і што іх лёгка могуць прагрызці мышы, якія ўлезшы у вуллей робяць там шмат шкоды. Гэта два найгалоўнейшыя і здаецца адзіныя закіды, якія крытыкі робяць саламяным вульлям. Няхай мне, як пчаляру практыку будзе пазволена скрытыкаваць гэтыя закіды і даказаць, што яны безпадстаўныя. -Ваджу пчолы ад шмат гадоў амаль выключна ў саламяных вульлях сыстэмы Дадана. Сталая практыка перакнала мяне, што ваджэньне пчолак у гэтакіх вульлёх вельмі выгаднае. З аднаго боку выгадна таму, што саламяны вульлей для пчаляра-гаспадара таней каштуець, а гэтак сама яго лягчэй і скарэй можна зрабіць. З другога боку гэтакі вульлей якраз больш адпорны на вільгаць, бо салома гэта матэрыял порысты, які лёгка самовэнтылюецца. Далей, у кожным вульлі пры занядбаньні можа завясьціся вільгаць, але вільгаць гэтая ў саламяным вульлі заводзіцца ня гэтак скора, як у вульлі дзеравяным, а апрача таго і выгнаць яе заўсёды лягчэй.

Галоўны дадатні бок саламяных вульлёў, дык гэта сталасьць і аднастайнасьць тэмпэратуры. У летку гэтакі вульлей ня вельмі скора нагрэецца, а ў зімку ня гэтак лёгка стынець, бо салома, як порысты матэрыял, зьяўляецца горшым правадніком цяпла і холаду ад дзерава.

Што-ж тычыцца таго, што гэтакі вульлей могуць лёгка прагрысьці мышы, дык ад гэтага вельмі лёгка усьцерагчыся. Дзеля гэтага трэба перад усім вельмі моцна сьціскаць салому ў прасе, а па другое трэба заўсёды з вонкаў вульлей памаляваць з пярша адным покастам, а потым пакоснаю хварбаю. Замазываць вонкавыя сьценкі саламянага вульля цэмэнтам, або іншым падобным матэрыялам ня раджу дзеля таго, што пад гэтакім тынкам салома хутка прэе і вульлей дзеля гэтага робіцца менш трывалым.

Практык.

Калі хочаце, каб "Беларуская Борць" выходзіла д р у к а р с к і м спосабам, старайцеся здабыць ей якнайбольш падпішчыкаў, а самі без адкладу прышліце падпіску.

Л. В о й ц і к а в а .

## М е д а д а й н ы я   р а с ь ц і н ы.
/працяг/

Р а б і н а. -укр.Рябина, -рас.Рябина, -польск.Jarzębina . /Sorbus aucuparia/.

Дрэва нявысокае. Лісьцё мае непарна-пярыстае з лісточкамі падоўжнымі зубкаванымі. Кветкі дробныя,белыя сабраныя ў багатыя вялікія парасончыкі. Цьвіце зараз пасьля садовіны,г.зн.у такім часе,калі яшчэ пажытку ў пры - родзе ёсьць мала. Рабіна дае шмат мёду і пяргі. Ягады сьветла-чырвоныя выглядаюць на дрэвах вельмі прыгожа,дзеля чаго часта садзяць рабіну ў са- дох,парках і каля хат. У нас расьце дзіка. Зямлі патрабуе добрай. Размна- жаецца з насеньня,якое знаходзіцца ў ягадах. Перамёрзшыя ягады трэба рас- цісуць і перамыць у вадзе. Аддзяліўшаеся насеньне выбраць і рассыпаць, каб аб.сохла,а тады застратыфікаваць. Сеяць вясной.

На поўначы з ягад рабіны гоняць спірт і гарэлку,робяць наліўку,сма- жаць іх у цукры,робяць воцат і даюць зімой курам ды гускам. -З перамёрз- лых ягад смажаць павідлы,якія ўжываньня па крысе маюць лячыць катар кішок. Некатарыя ўважаюць ягады рабіны за добрае лекарства ад раматызму і на ачы- шчэньне крыві.

Б р э к і н я. -укр.Берека,польск. Brzekinia. /Sorbus torminalis vel Pirus torminalis/.

Дрэва сярэдняй вялічыні;лісьцё мае пальчатае,як у клёна,толькі боль- падоўжнае і выразы не такія глыбокія. Кветкі белыя,як у рабіны,толькі з вялікімі брудна-ружовымі пыльнікамі. Ягады крыху большыя,чым у рабіны, бранзовыя,перамерзшыя ўжываюцца да яды. Цьвіце ў канцы траўня ды пачатку чэрвеня. Дае пчолам мёд і пяргу. Расьце дзіка на поўдні;спатыкаецца на Падольлі. Часта гадуецца ў садох і парках. Размнажаецца з насеньня і ато- жыньнем . Расьце добра ў кожнай зямлі.

Т а п о л я   б е л а я. укр.Тополя біла,ябруд. рас.Тополь белый. польск. Białodrzew,Topola srebrzysta. /Populus alba/.

Высокае дрэва да 20-30 мэтраў. Кара белавата-шэрая,у маладых дрэваў гладкая, у старэйшых карпавая. Лісьцё яйкаватае,зубкаванае,на вяршках га- лінак большае і 3-5 пальчатае; зьверху гладкае цёмна-зялёнае, падыподам бела-кашлатае. Цьвет -доўгія зьвешаныя каткі -зьяўляецца ў канцы сакаві- ка,пачатку красавіка перад лісьцём. Таполя дае пчолам пяргу і кіт. Дзіка спатыкаецца каля Станіславова /даўн.Галіччына/ і то рэдка. Найчасьцей са- дзяць у парках і пры дарогах. Паходзіць з паўднёвай Эўропы ды паўночнай і ўсходняй Азіі. Размнажаецца лёгка кускамі галінак і сукоў,якія ўторк- нутыя ў зямлю растуць вельмі хутка.

Я с а к а р. укр.Сокорина,рас.Осокорь.польск. Topola czarna /Popu- lus nigra/.

Наагул дрэва падобнае да папярэдняга,толькі мае шырэй разложанае гальлё і лісьцё сэрцаватае аднастайна зялёнае. Расьце па цэлай Эўропе на мокрых грунтах,па берагох лясоў. Размнажаецца як таполя белая. Дае пяргу і кіт і мае ў пчалярстве найбольшае значэньне з усіх таполяў. Цьвіце ў красавіку. Дрэва ясакара,як лёгкае і мяккае,ўжываецца на ўсялякія хатнія прылады. З кары робяць паплаўкі да рыбацкіх сетак,а маладым лісьцём і ка- рой хфарбуюць на жоўты,або зялёны коляр.

В я р б а. /Salix/.

Ёсьць вельмі шмат гатункаў вярбы;адныя растуць кустамі,іншыя дрэвам і дарастаюць да 20 мэтраў вышыні. Адныя растуць на мокрых мяйсцох,іншыя на пясках. Пруткія галінкі розных вербаў ужываюцца на плецяньня вырабы -кошыкі,крэслы іг.д.,дзеля чаго закладаюць,асабліва на няўжытках цэлыя плянтацыі вярбы,адпаведнай на гэтакія вырабы. -Вярбовы вугаль ужываецца да вырабу пораху і да рысаваньня. Кара ўжываецца да вырабу скураў,а ма- ладая кара з 2-3 гадовых галінак ужываецца як лекарства пры трасцы за- мест хініны. Некаторыя гатункі,дзеля сваей прыгожасьці,гадуюцца як дэка- ратыўныя. У пчалярстве вербы карысны тым,што пчолы ў іх мёдзе і пярзе знаходзяць г.зв.саліцыль,які зьяўляецца памоцным пры веснавой ляксе. Аднак найбольшае значэньне для пчол маюць тыя вербы,якія цьвітуць рана вясной перад садовінай і тыя,што цьвітуць у канцы красаваньня садоў.

Пераглядзім найбольш цікавыя для нас гатункі.

I.В е р б а к о з -укр.верба іва,рас.ива,польск. Iwa. /Salix capr- Бывае або кустом,або невялікім /да IO мэтр./ дрэвам. Лісьцё мае зьверху цьмяна-зялёнае,падысподам бела-кашлатае. Цьвіце перад лісьцём у сакавіку або красавіку. Дае і вялікім ліку мёд,пяргу і кіт.

2.В я р б а   ч о р н а я. укр.верба лавролиста,рас.верба лавровая, польск. Wierzba laurowa. /Salix pentandra/.

Дрэва прыгожае,дарастае да IO мэтраў. Лісьцё цёмнае бліскучае.Цьві- це пазьней чым іншыя /у канцы траўня/. Дае шмат мёду і пяргі.

3. Вярба плакучая. /Salix babylonica/ Вельмі дэкаратыўнае дрэва, якое часта садзяць у парках і на могілках. Паходзіць яна з Малой Азіі. Галінкі мае тоненькія даўгія і звіслыя; лісьцё вузенькае, сіня-зялёнае. Цьвіце ў канцы красавіка.

Усе вербы размнажаюцца вельмі лёгка зрэзамі.

В я з. укр. Берест, рас. вяз, берест, полск. Wiaz vel Brzost. /Ulmus campestris

Высокае дрэва дарастае да 30 мэтраў. Жыве да 100 гадоў і больш. Лісьцё мае сэрцаватае, загострэнае, падвойна-зубкаванае, пакрытае шорсткімі валаскамі. Цьвіце ў сакавіку і красавіку, перад лісьцём, дробненькім чырванаватым цьветам, які сядзіць цесна пучкамі пры самых галінках. Дае пчолам мёд і пяргу. -Расьце дзіка ў лясох, але толькі паасобнымі дрэвамі. Часам яго садзяць у парках і каля хатаў. Пры дарогах садзіць ня варта, бо дарожны пыл вельмі набіваецца ў валаскі лісьця, ад чаго разводзіцца маса травлных вошаў і лісьцё хутка сохне і ападае. Удаецца і на лёгкай зямлі, але на вельмі пустой, расьце ня прыгожа. Размнажаецца з насеньня, якое сеецца ў чэрвені, значыцца як толькі дасьпее.

Дрэва вязаў маладых жаўтавата-белае, старых -чырвона-бурае; яно вельмі сьціслае, гнуткае і трывалае; ня лёгка гніе ні ў вадзе ні на паветры і чарвякі яго не чапаюць. Дзеля гэтага яго ўжываюць вырабы сталярскія, такарскія, боднарскія, на падставы да арматаўда машынаў, да падводнай будоўлі і г.д. Лісьцё сьвежае і сушанае зьяўляецца добрым кормам для авечак.

/далей бУдзе/.

## АДКУЛЬ ПЧОЛЫ ЗІМОЙ БЯРУЦЬ ВАДУ.

Кожны пчаляр добра ведае, што пчолы, роўна з мёдам і пяргой, ужываюць ваду. Калі ў летку мы бачым шмат пчол, зьбіраючых ваду, то адкуль яны бяруць ваду зімой, ня вылетаючы з вульлёў? Над гэтым пытаньнем доўга працавалі вучоныя, пакуль яго наканец разьвязалі. Аднак і цяпер яшчэ ня ўсе пчаляры аб гэтым ведаюць. Шмат пчаляроў думае, што зімой пчолы здавольваюць смагу той вільгацьцю, якая спатыкаецца ў вульлёх.

У сапраўднасьці, як правільна заўважыў вядомы пчаляр Бэрлепш, у вільготным вульлі вады пчолам не хапае, у той час калі ў сухім яе даволі.

Тая вада, якая патрэбная пчолам падчас зімы, творыцца сама па сабе. Незакрыты мёд уцягвае ў сябе вільгаць з паветра. А паветра, чым больш бывае нагрэтае, тым больш затрымлівае ў сабе вільгаці, каторую затое лёгка з сябе выдзеляе, калі пачне ахаладжывацца.

Пры нармальным і спакойным зімаваньні клубок пчол дыхаючы выдзяляе паветра цяплейшае, чым паветра знаходзячаяся ў непакрытай пчоламі часьці гнязда; пры выхадзе з клуба гэтае паветра спатыкаючы на сваей дарозе прадметы халодныя, само ахаладжываецца і выдзяляе лішнюю вільгаць, якую густы, раскрыты мёд уцягівае ў сябе і робіцца настолькі вадзяністым, што пчолы, ядучы яго, здавольваюць свае запатрэбаваньне на ваду.

І вось з мэтаю атрыманьня гэтакім чынам патрэбнай для свайго зімовага жыцьця вады, пчолы, паводле досьледаў пчаляра Цесельскага, звычайна над клубком і трымаюць заўсёды, некатары лік каморак з разкрытым мёдам, каторы ўцягівае ў сябе з паветра вільгаць.

Н.Б а д а ў.

## Здабывайма веду!

Мінулі часы, калі на пчалярства глядзелі як на штосьці такое, чым кожны можа займацца без ніякая веды, абы было толькі пара вульлёў. Зараз кожны пчаляр, як пачаткуючы, так і практык добра разумее. патрэбу фаховае веды, без якой ня здолее ён карысна весьці сваю пчалярскую гаспадарку.

Гэтае жаданьне здабыця веды выклікала наплыў у нашую рэдакцыю шмат розных запытаньняў як аб беларускай пчалярскай літэратуры, так і аб курсах. Ня маючы магчымасьці налідзіць у бліжэйшыя часы свае курсы, мы радзім нашым пчаляром, якія хочуць паважна і грунтоўна вывучыць пчалярства зацікавіцца 6 месячнымі завочнымі курсамі пчалярства ладжанымі Украінскім Тэхнічна-Гаспадарчым Інстытутам пры Украінскай Гаспадарчай Акадэміі у Подэбрадах /Чэхаславаччына/.

Курсы гэтыя маюць сваім заданьнем паглыбіць веду пчаляра-практыка, азнаёміць яго з рацыянальным спосабам вядзеньня пчалярскае гаспадаркі, ды прыгатаваць яго да грамадзкае працы ў гэтай галіне вясковае гаспадаркі.

Праграма курсаў наступная: I. Разьвіцьце пчалярства на Украіне. Выхаваўчае значэньне пчалярства. 2. Народна-гаспадарчае ды сельска-гаспадарчае значэньне пчалярства. 3. Уступ да біялягічных падставаў гадаваньня пчол /апікультура/ Клетачкі цела пчалы /Асновы цітолёгіі/. Спадчыннасьць у пчол /асновы генэтыкі пчалы/. 4. Разьвіцьцё пчалы /асновы эмбріолёгіі пчалы/.

Будова і жыцьцёвыя працэсы цела пчалы /асновы анатоміі і фізыялёгіі пчалы/. 5. Змыслы пчалы /асновы псыхалёгіі пчалы/. Жыцьцё сям'і пчол /асновы біялёгіі пчол/. Паходжаньня ды расы пчол /асновы сыстэматыкі пчол/. 6. Медадайныя расьціны. Медадайныя севазвароты. 7. Вульлей /вульлей, рамка, галоўныя часткі рамкавага вульля, сыстэмы вульлёў і будова вульля/. Значэньне вульля у жыцьці пчол. Пчалярскія прылады. 8-II. Тэхніка пчалярства: пчальнік і яго будова, як трэба абходзіцца з пчоламі, перагон пчол, злучываньне сем'яў, нацягіваньне рамак вузою, гадаваньне пчол. Зьбіраньне раёў. Штучнае раеньне. Перанос і перавозка пчол. Наркотызаваньне пчол. Дабываньне мёду ды воску. Выраб штучнае вузы. Зімаваньне пчол. Праца ў пчальніку ў працягу году. Досьледы ў галіне пчалярства. I2. Пчаліная Бактэоролёгія. Барацьба з хваробамі пчол і іх шкоднікамі. I3. Палепшаньне расы пчол. Расавая гадоўля пчол. I4. Тэхнолёгія мёду і воску /вырабы з мёду і воску/. Збыт і стандарызацыя мёду ды воску. I5. Экономіка і арганізацыя пчалярскіх гаспадарак. Сыстэмы пчалярскае гаспадаркі. Пчалярскія арганізацыі. I6. Дзяржаўныя і грамадзкія захады да палепшаньня пчалярства /школы, курсы, выстаўкі, конкурсы, нагароды, літэратура, часопісы/ Палітыка і законы ў галіне пчалярства.

Як відаць з праграмы навучаньне на курсах паважнае і ўсебаковае, а дзеля гэтага і карыснае для кожнага пчаляра. Кіраўніцтва Курсаў дала нам згоду на прыняцьце на курсы нашых беларускіх пчаляроў і дзеля гэтага кожнаму, хто мае магчымасьць варта гэта выкарыстаць.

Цана поўнага курсу разам з падручнікам кор. чэскіх /каля залатов./

Адрэс курсаў: Ukrajinský Technicko-Hospodářský Institut, Poděbrady, Tchécoslovaquie.

## М ё д я к л е к а р с т в а.

Мед і алёэс /аліяс/ -лекарства ад хваробы лёгкіх.

I½ кілё найлепшага сьпелага мёду, шклянку сасновых пупышак і шклянку дробна пакрышанага алёасу ўкінуць у новы гліняны гаршок, шчыльна накрыць, абляпіць шчэлку паміж гаршком і накрыўкай хлебным цестам ды паставіць у печку /разам з хлебам/ на 24 гадзіны. Вынуўшы працёрці праз густое сіта і зьліць у бутэльку.

Прымаць так: першы тыдзень штодзенна па I гарбатняй лыжацы, другі тыдзень -па 2 лыжачкі, трэцьці тыдзень -па 3 лыжачкі, а чацьверты тыдзень -па I сталовай лыжцы. -Скончыўшы чацьверты тыдзень зрабіць перарыў на 8-I0 дзён, а пасьля зноў гэтак сама паўтарыць.

---

Масьць ад скулаў. Сьпячы ў печы 2-3 цыбулі, залежна ад вялічыні. Сьпечаную добра перацёрці праз сітка. -Узяць I лыжачку гэтае масы, I лыжачку мёду і I лыжачку алівы. -Усё гэта ўлажыць у эмаляваны кубачак і перасмажыць дадаўшы пшоннай мукі да пажаданай густаты. Ад гэтай масьці, намазанай на палатняны шкуматок і прыложанай да скулы, апошняя вельмі хутка нарывае.

## К У Т О К Н А Ш Ы Х Г А С П А Д Ы Н Ь.

Надыходзіць Каляднае сьвята; трэба падумаць, каб яно прайшло па магчымасьці весела і прыемна, асабліва для нашых дзетак. -Няхай хаця яны забудуцца аб розным жыцьцёвым горы і маюць мілае "салодкае" сьвята, аб што павінны пастарацца ўсе Мамы і старэйшыя сёстры. Гэта ня так трудна, асабліва ў сям'і пчаляра. -Чагож, чаго ня можна зрабіць з мёду!

Вось тут падамо некалькі радаў.

Д о б р ы я п е р н і к і.

2 шклянкі мёду варыць пакуль ня будзе румяны; з I-й шклянкі цукру зрабіць густы сыроп і ўліць яго ў пасудзіну з мёдам; як перакіпіць адзін раз пасудзіну адставіць і ўсыпаць 4 лыжачкі /роўна з берагамі/ ачышчанай соды і розных карэньняў на запах: 2 лыжачкі цынамону, I лыжачку ангельскага перцу і адну лыжачку гвоздзікаў, -усе гэта трэба раней добра, мякка стаўчы. Мёд з карэньнямі і содай дакладна вымяшаць і ўліць у міску, у якую раней сыпем 5 шклянак сухой пшоннай мукі. Уліваючы мёд бязупынна перамешываем яго з мукою лыжкаю. Выраблясм цеста лыжкай у місцы доўга, чым даўжэй, тым лепш. Як цеста будзе зусім халоднае, убіваем 2 цэлыя яйкі і месім далей. Калі ўжо зробіцца пухкім, выкідаем на стальніцу пасыпаную мукой і яшчэ месім рукамі. Добра выробленае цеста расцягіваем на бляху пасыпаную мукой і пячом у печы напаленай як на пірагі ў працягу 20 мінут. Спечаныя пернікі найлепш парэзаць на кускі і пераховываць у шкляным слоіку, абвязаўшы паперай. -Вельмі доўга захоўвае сьвежасьць.

Э.С.

М а к а ў н і к і. Робяць іх так: I кілё мёду вараць і сыплюць у яго паўкіля маку ды бязупынна мяшаюць. Вараць пакуль не зарумяніцца. Тады выкладаюць масу на стальніцу, аблітую халоднай вадой і пасыпаную макам. Калі

Уго крыху астыне тоненька развалкоўваюць і рэжуць на кусочкі уселякай фор мы. Перасыпаюць іх макам і перахоўваюць у сухім і халодным мейсцы. Гэтыя макаўнікі замяняюць дзецям розныя цукеркі.
/паводле Украінскага Пасічніка/

Пітны мёд да хуткага ўжытку. I кілё мёду і I2 шклянак вады добра размяшаць, дадаць 2 грамы хмелю і варыць у працягу 2 гадзін. Як закіпіць сабраць шум. Астудзіць да 20°, дадаць I дэка дрожджаў, добра перамяшаць і зьліць у дзеравяны бачоначак, або ў шкляную бутлю, закаркаваць коркам у які ўставіць шкляную трубачку сагнутую каленкам, і заліць корак воскам, каб не праходзіла паветра; другі канец трубачкі ўставіць у пасудзіну з вадой Трубачка патрэбна дзеля таго, каб падчас бушаваньня адыходзілі газу, але не ўваходзіла сьвежае паветра, ад якого мёд можа ськіснуць. Для бушаваньня паставіць пасудзіну з мёдам у пакоі з тэмпэратураю не ніжэй I4°. Калі перабушуе, гэта будзе праз якіх 2 тыдні, разьліць у бутэлькі, моцна закаркаваць, абвязаўшы коркі шпагатам і зложыць у склепе.

## Рыхтуемся да новай кампаніі.

Ня пройдзе і 3 месяцаў, як зямля, якая яшчэ нават не апранулася ў свае зімовыя вопраткі, скіне з сябе сьнегавыя і лёдавыя насьцілы, і распачнецца зноў збор лекарскіх зёлак.

Ня будзем гаварыць аб значэньні лекарскіх зёлак і аб тым, што можа даць зьбіраньне іх. Шмат ужо пісалася і гаварылася аб гэтым і ўсім гэта добра ведама. Аднак ня можам не зьвярнуць яшчэ раз увагі на зёлкавую справу нашае безработнае інтэлігенцыі, якая сядзіць па вёсках і ня ведае што рабіць, за што ўзяцца, каб зарабіць хоць пару грошаў.

Зёлкі і могуць даць усім безработным, не скажу што вялікі, але затое сталы заработак, пачынаючы ад самае раньняе вясны, як толькі сойдзе сьнег аж да той пары, калі зямля зноў пакрыецца сьнегам. Трэба толькі своечасна распачаць збор і загадзя да гэтага прыгатавацца. Апошнія месяцы зімы і павінны быць адпаведна выкарыстаны.

Т-ва "Пчала" хочучы зноў пайсьці на сустрэчу ўсім тым, хто хоча заняцца зборам зёлак, ладзіць дзеля гэта ў пачатку 1935 г. 3-х тыднёвыя завочныя курсы. Навука на курсах бясплатная, толькі на зварот коштаў паперы, друку і паштовых расходаў сяброў Т-ва "Пчала" і падпішчыкі "Бел.Борці" павінны ўнясьці па 2 залатоўкі, а ўсе іншыя па 3 зл.

Поўны курс складаецца з 9 лекцыяў, якія будуць высылацца раз у тыдзень партыямі па 3 лекцыі.

Праграма курсаў наступная: I.лекцыя -Гісторыя ўжываньня зёлак у лячэньні. Прылады да зьбіраньня зёлак. Пара і спосабы зьбіраньня паасобных частак расьціны. 2-ая лекцыя -Арганізацыя зборных пунктаў. Прылады да сушэньня. Спосабы сушэньня. 3-яя лекцыя Перахоўваньне сухіх зёлак. Перасылка. Варункі аплатнасьці. 4-9 лекцыі -абымуць падрабязныя апісаньні зёлак найбольш у нас спатыканых і маючых запатрэбаваньне ў гандлі.

Высылка лекцый распачнецца зараз па атрыманьні падпіскі на курсы.

Адначасна Т-ва "Пчала" просіць ўсіх тых, хто адпаведна прыгатаваўся і згадзіўся бы арганізаваць у сябе зборны пункт, напісаць у Т-ва падаючы якія зёлкі ў вялікшых колькасьцях можна мець у дадзенай ваколіцы, як мае цца справа сушэньня, ці ёсьць кадр зьбірачоў і якія варункі платы былі б магчымы. Па атрыманьні пісьма Т-ва войдзе ў гэтай справе ў бліжэйшыя зносіны.

## З ЧУЖОГО ЖЫЦЬЦЯ І ПРЭСЫ.

Дня 30 верасьня г.г. у Кракаве адбыўся агульны сход сяброў Пчалярскага Т-ва ў Кракаве і паседжаньне Агульнай Рады Саюзу Паветавых Пчалярскіх Т-ваў Прысутных было больш 150 пчаляроў і дэлегатаў 15 Пчалярскіх Таварыстваў.

Інспэктар Лёрэнц прачытаў рэфэрат: "Агульны стан пчалярства ў Польшчы" у якім гаварыў, што пчалярства ня толькі прыносіць карысьць пчаляру, даючы яму мёд і воск, але і пабольшывае даходнасьць земляробства і садоўніцтва. Дзеля гэтага дакладчык бачыць неабходнасьць цеснай сувязі пчаляроў з агароднікамі у сільных пчалярска-агародніцкіх арганізацыях.

Наступным быў рэфэрат інж.Паўлоўскага: "Спосаб падкармліваньня пчол дэнатураваным цукрам і як ратаваць пчальнікі ў цяперашнюю пару". У сваім рэфэраце дакладчык даказвае, што прызнаны ўрадам цукар у колькасьці 2 кгр. на вулей ня можна назваць ратункам, бо пчолы, каб не прапасьці з голаду, павінны атрымаць па 6 кгр.

Пасьля выбараў, былі прынятыя наступныя рэзалюцыі:

I. Рэфэрэнт пчалярскі павінен быць пры "Ізбах Рольнічых", а таксама і пры Міністэрстве Земляробства.

2. У справах зьвязаных з патрэбамі пчалярства рашаючы голас павінны мець самі пчаляры.

3. Прызнаваньне і разьдзел цукру для пчол павінны праводзіць мяйсцовыя пчалярскія Т-вы.

/Pszczelarz Polski/

---

У пав.Бэндзінскім, у Стшэмешыцах 30 верасьня г.г. была арганізаваная земляробска-агародніцкая выстаўка, падчас якой адбыўся зьезд пчаляроў гэтага павету. -Зьехалася каля 100 чалавек. Паміж іншым было пастаноўлена заложыць пры О.Т.О.іК.Р. пчалярскую сэкцыю, да якой адразу запісалася 73-х пчаляроў.

/Pszczelarz Polski/

---

У Кэнігзбэргу /Усх.Прусы/ пры Заалягічным музэі канд.Альжб.Віхэрт чытала цікавы рэфэрат аб жыцьці пчол. У канцы былі паказаны 2 фільмы пад кір.праф.К.ф.Фрыш. -Першы фільм паказываў, як пчолы адносяцца да розных колераў і запахаў, а другі, як пчолы паразумеваюцца паміж сабою. Публікі было шмат; зацікаўленьне вялікае.

/Königsb.Alg.Zait./

---

Пчалярства ў Нямеччыне дае 500 міліёнаў марак даходу.

Газэта "Progres de l'Allier" падае даньня Статыстычнага Ураду Нямеччыны аб прадукцыі мёду, якая сёлета дайшла да 200 тысяч цэнтнараў, што прадстаўляе вартасьць 35 міл.нам.марак. Калі да гэтага дадаць прадукцыю воску і прадукцыю садовіны, што бяз пчол не магло абыйсьціся, то цэлы даход з пчалярства Нямеччына аблічае ад 400 да 500 міліёнаў. У Нямеччыне налічываюць усяго 2 міліёны калод пчол.

/Gazette Apicol/

---

Зацікаўленасьць Украінскіх дактароў справаю зёлак.

19 траўня г.г.інж.М.Гаўрыленка прачытаў у Т-ве Украінскіх Дахтароў у Львове рэфэрат аб лекарскіх зёлках, аб іх гадоўлі, аб зборы з дзікага стану ды аб прадажы і прыгатаваньні да ие. -Рэфэрат выклікаў вялікую зацікаўленасьць сярод прысутных, якіх было больш як 40 асоб, і дзеля дыскусіі было вызначана нават асобнае паседжаньне Т-ва.

/Украінскі Агрон.Вестнік

---

У мэдыцыне адкрыцьцё новых сродкаў бывае найчасьцей зусім прыпадковае. Сягодня вельмі добрым і шырока стасаваным лекарствам ад сэрцовых хваробаў ёсьць г.зв.Палечнік /укр.Наперстник, рас.Наперстянка. польск.Naparstnicae, лац. Digitalis/ Вось якая яго гісторыя. -У 1775 г. англійскі доктар Вітэрынг даведаўся, што адна старая жанчына прадае нейкую зёлкавую мяшанку якая нязвычайна добра дзеіць проці вадзяной пухліны. Дзеля таго, што ён сам меў гэтую хваробу, пасьпяшыў купіць тую мяшанку і адкрыў, што яна ў большай частцы складалася з палечніка. Пасьля доўгіх досьледаў адкрылі, што палечнік мае ў сабе г.зв."дігіталіну", якая ёсьць цудоўным сродкам проці хваробаў сэрца.

/Königsb.Allgem.Zeit

## З НАШАГА ЖЫЦЬЦЯ.

вёска Слабада, пав.Вялейскі. Медазбор у нашай ваколіцы сёлета быў сярэдні. Палявыя краскі, дзякуючы засусе, далі мёду вельмі мала, і толькі верас, якога ёсьць шмат у нашых лясох, даў пчолам добры пажытак. Пагодная і цёплая восень дала пчолам магчымасьць прападаваць каля верасу пакуль ён не засох. Кожны вулей даў у сярэднім па 32 кгр.мёду.

Гріцэвіцкая гміна, пав.Нясьвіжскі. У нашай гміне хіба ня знойдзецца ніводнае вёскі, у якой бы ня бало пчаляра. Нашы пчаляры пераважна аматары пчалярскай штукі і займаюцца такой не для зыску, але праз цікавасьць і хіба дзеля таго, што шаагул беларускі селянін любіць пчол. Аднак знаходзіцца шмат ужо і такіх, якія трактуюць пчалярства як паважную галіну земляробскае гаспадаркі, і не адзін з іх ужо дайшоў да паправы свайго быту толькі дзякуючу пчалярству. Знаходзяцца у нас такія пчальнікі, якія перавышаюць 30 пнёў /як напр. п.Лавоцкі Новы Двор, які мае ўжо блізка 100 пнёў, п.Казак з Матушы 33 пні і шмат іншых/. -Вульлі пераважна системы Лявіцкага. У апошнія часы аднак заўважваецца тэндэнцыя пашыраць вульлі Дадана. -Пчальнікі функцыянуюць і разьвіваюцца добра, і з гэтага можна прадбачыць, што ў недалёкай будучыне пчалярства ў нашай гміне займе паважнае мейсца ў жыцьці селяніна. -Сёлетні медазбор можна акрэсьліць як добры, бо мёд у нас паходзіць з кветак белай канюшыны /дзяцеліны/ якой было шмат пасеяна на пашу.

Ул.Казак.

## Хроніка Т-ва "ПЧАЛА"

Вечарына Т-ва "Пчала", якая мела адбыцца 15 сьнежня г.г., з прычыны ад Т-ва незалежных, адложана на канец студзеня.

# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

Гр.Піліпу Карпенюку. Шчыра дзякуем за Ваш мілы ліст і за той давер
з якім адносіцеся да нашых пачынаньняў. Вельмі добра зрабілі,што запісалі-
ся на курсы "У.Т.Г.І.". Гэта курс паважны і дасьць Вам шмат карысьці,шмат
веды,якой зможаце пасьля падзяліцца с сваімі суседзямі-пчалярамі. Старай-
цеся ўнасіць сьвядомасьць паміж сваіх суседзяў; старайцеся пераконываць аб
патрэбе сваей арганізацыі дзеля палепшаньня пчалярскай гаспадаркі і бараць-
бы з рознымі яе недамаганьнямі. -"Бел.Борць" выслалі Вам з ?-га нумэру.

гр.Эдм.Зуэмілю. Вельмі дзякуем за атрыманыя ад Вас матэрыялы. Ці не
маглі-бы Вы,Паважаны Грамадзянін, паведаміць нас аб цэнах зёлак,якія ў Вас
маюць найбольшае запатрэбаваньне,а па магчымасьці прыслаць цэньнік. Былі-б
Вам шчыра ўдзячныя.

гр. Івану Балушцы-Бігуну. Вельмі нам прыемна было даведацца,што наша
праца дарма не прападае,а знаходзіць такую прыхільную ацэну. Зёлкі ад Вас
атрымалі і ў іх справе напішэм Вам ліст. -Кусты дэрэню можаце дастаць у са-
доўніцтве Stanisław Brzósko,Łomianki p/Warsz Насеньне дэрэню на зіму
трэба страт(ф)іказаць г.зн.перасыпаць вільготным пяском у скрынцы,якую трэ-
ба закапаць ў зямлю на ½ мэтра. -Насеньне Дзягелю можаце купіць у фірме В.
Гарнушэвскі ў Варшаве,Гале Міровске; 100 гр.каштуе 3 зл.60 гр.,10 гр. -60 гр.
I порцыя 25 гр. Насеньне дзягелю трэба сеяць у восені,зараз пасьля збору.
Дзе купіць насеньне Gorzknika kanadyjskiego-ня ведаем;запытайцеся п.інж.
Гаўрыленкі. -З прысланых Вамі назоваў расьцін мы знайшлі толькі два:I.Hebd
-укр.Базник,хобза,сабача або ялова бузіна,вязовіна,хобзіна. лац. Sambukus
Ebulus. 2.Krzecina pospolita-укр.Шанта,Жилава,Сяндра,Шандра,Шмандра.лац.
marrabium vulgare Запатрэбаваньне першага вялікае,другога -сярэднее. Калі
знойдзем тыя два -напішам. -Не радзім Вам плянтаваць гэтак шмат гатункаў.
Лепш выбраць 2-3,а затое ў большай колькасьці. Чым большая колькасьць адна-
го тавару,тым лягчэй яго прадаць.

гр.Язэпу Пагуда. Пакуль што курсаў арганізаваць ня зьбіраемся. Зьвяр-
ніце ўвагу на курсы,якія ладзіць Украінскі Тэхнічна Гаспадарчы Інстытут,і
аб якіх мы пішэм у гэтым №.

гр.А.Кукляю,А.Гаворку,М.Емельянчыку,К.Галоўку,П.Карпенюку,П.Зайку.
А.Шайку,Я.Гану. Грошы ад Вас атрымалі. Дзякуем.

гр. Ул.Дунцу. Табліцу вышлем зараз па атрыманьні з Львова.

гр.Я.Дубягу. Аб карысьцях сяброўства ў Т-ве "Пчала" даведаецеся з ар-
тыкулаў папярэдніх нумароў "Бел.Борці". Заданьне Т-ва -дапамагчы нашым пча-
лярам наладзіць сваю гаспадарку так,каб яна давала найбольш даходу,наладзіць
збыт мёду і воску і даставу вузн і пчалярскіх прыладаў. Вось тыя карысьці.
Як запісацца знойдзеце ў перадавіцы № 2-3 "Бел.Борці"

гр.М.Галіцкаму. За добрыя пажаданьня дзякуем. Жыцьцё пчол Мэтэрлінка
ёсьць у польскай мове і можна набыць у кожнай вялікшай кнігарні.Цана 10зл.
Працы "Тэорыя Гэрштунга"ня ведаем.

Усім падпісчыкам ня ўрэгуляваўшым падпіскі за 1934 г. Просім прысьпя-
шыць з высылкаю грошаў,якія рэдакцыі вельмі патрэбныя ў сувязі з пераходам
на выдаваньне "Бел.Борці" друкарскім спосабам.


Прыймаецца падпіска на 1935 год

на адзіны беларускі месячнік пчалярства і мядова-лекарскіх зёлак

БЕЛАРУСКАЯ БОРЦЬ

Падпісная плата:

на год..............5 зл.

на паўгода.........2 зл.50 гр.

на 3 месяцы........1 зл.50 гр.

Заграніцу -удвая даражэй. Цана абвестак паводле ўмовы.

Падпішчыкі,якія ўнясуць да 1 лютага 1935 г.падпіску за год,
атрымаюць прэмію -2 порцыі насеньня найлепшых медадаяў,а тыя,што
ўнясуць падпіску за паўгода,атрымаюць 1 порцыю.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі -Вільня,вул.Каралеўская,3-8.
Рэдакцыя адчынена ў аўторкі і пятніцы ад10-14 гадз.

Выдавец-Рэдактар Л.Войцікава